Нашы інтэрв'ю

# СХОВІШЧЫ РАСЧЫНІЛІ ДЗВЕРЫ

У засені ліп стаіць у ціхім Старажоўскім тупіку двухпавярховы асабняк. Гэта і ёсць Цэнтральны дзяржаўны архіў кіна-фота-фонадакументаў БССР.

Мы прывыклі да маўклівасці сховішчаў. АКФФД (скарочаная назва архіва) — сховішча не маўклівае. На тысячы галасоў расказвае яно аб мінулым. Расказвае і паказвае. Калі вы зойдзеце ў асабняк з ціхага завулка, не здзіўляйцеся, што пачуеце галасы прамоўцаў і мелодыі песень, фабрычныя шумы і дзіцячы смех.

Цесна звязана сховішча з прадпрыемствамі, калгасамі, навучальнымі ўстановамі рэспублікі. Вось што расказалі нам аб гэтым супрацоўнікі архіва.

### ФАТАГРАФІІ РАСКАЗВАЮЦЬ

Старшага навуковага супрацоўніка Людмілу Мікалаеўну Яноўскую мы засталі за сістэматызацыяй фотаздымкаў Мінска.

— Сталіцы рэспублікі ў 1967 годзе спаўняецца 900 год, — паведаміла Яноўская, — вось мы ўжо цяпер і пачынаем падрыхтоўку.

— Людміла Мікалаеўна, на апошняй старонцы альбома «Полацк», які толькі што выйшаў у Беларускім дзяржаўным выдавецтве, адзначана, што ён складзен па матэрыялах вашага архіва. Раскажыце, як ствараўся альбом?

Людміла Мікалаеўна паказала на стос анатаваных здымкаў на сваім стале.

— Таксама як і гэты, над якім мы цяпер працуем. Да ўсіх юбілеяў ёсць далёкія подступы. За некалькі год да свята гісторык садзіцца за пісьмовы стол. А яшчэ раней ён звяртаецца да нас. Да 1100-годдзя Полацка мы таксама рыхтаваліся загадзя. Абследавалі архівы Масквы, Ленінграда, Вільнюса, Кіева, выявілі рад каштоўных дакументаў, знялі з іх копіі. Беларускаму дзяржаўнаму выдавецтву мы перадалі для альбома каля 50 здымкаў. Амаль усе яны выкарыстаны. Нашымі фатаграфіямі і малюнкамі ілюстравана таксама кніга «Полацк», якая выйшла ў выдавецтве Акадэміі навук БССР.

— Людміла Мікалаеўна, вы гаварылі пра абследаванне архіваў іншых гарадоў. Раскажыце, якія важныя для гісторыі рэспублікі фотадакументы ўдалося выявіць?

— Асабліва плённай была камандзіроўка ў Ленінград, дзе мы выявілі каля дзвюх тысяч фатаграфій і малюнкаў. Вялікую цікавасць сярод іх маюць дакументы, якія адлюстроўваюць падзеі першых месяцаў рэвалюцыі і ўстанаўленне Савецкай улады ў Беларусі. Мы маем цяпер фатаграфію першага з'езда салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, які прыняў бальшавіцкую рэзалюцыю, здымак з'езда франтавікоў у г. Мінску, у прэзідыуме якога знаходзіўся М. В. Фрунзе. Мітынг у Кіеўскім палку 75 дывізіі ў раёне Пінскіх балот з удзелам дэлегатаў Петраградскага Савета; палітычная дэманстрацыя ў Мінску 9 красавіка 1917 года; мітынг у дні Лютаўскай рэвалюцыі ў Гомелі; раззбраенне паліцыі ў Мінску; абвяшчэнне 2-м Магілёўскім з'ездам Саветаў Савецкай улады —аб усіх гэтых падзеях расказваюць старыя здымкі. Выяўлены новыя фотаздымкі М. В. Фрунзе, А. Ф. Мяснікова, І. Е. Любімава і іншых кіраўнікоў рэвалюцыйнай барацьбы ў Беларусі, рэдкія фатаграфіі дэпутатаў Мінскага і Лепельскага Саветаў у 1917 годзе. Адным словам, паездка была надзвычай цікавая. Некаторыя са знойдзеных дакументаў ужо выкарыстоўваюцца ў музейных экспазіцыях, апублікаваны ў навуковых выданнях.

— А якія экспазіцыі наладжвае сам архіў?

— Чытачам «Літаратуры і мастацтва» цікава будзе даведацца, што мы падрыхтавалі спецыяльную экспазіцыю, прысвечаную гісторыі беларускай савецкай культуры. У экспазіцыі ёсць дакументы, звязаныя з дзейнасцю трупы Ул. Галубка, тут ёсць копія пастановы СНК БССР ад 17 снежня 1924 года аб стварэнні «Белдзяржкіно», прывітальныя тэлеграмы ў сувязі з адкрыццём Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета, момант сустрэчы артыстаў Беларускай эстрады з М. І. Калініным у 1940 годзе і многае іншае.

173 здымкі экспануюцца на выстаўцы, якую мы адправілі ў вядомы калгас «Рассвет» Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці. Гісторыя выстаўкі такая.

Разбіраючы фонды калгаснага будаўніцтва, нашы работнікі звярнулі ўвагу на тое, што ёсць шмат сюжэтаў з калгаса «Рассвет». Кадры гэтыя мала вядомыя. Мы параліся і вырашылі зрабіць калгаснікам падарунак. Здымкі рэпрадуцыравалі, зрабілі стэнды. Але тут выявілася, што для падборкі не хапае фотаздымкаў пра сённяшні дзень калгаса. Паслалі ў «Рассвет» свайго фатографа. Неўзабаве выстаўка была гатова. Ва ўрачыстай абстаноўцы мы перадалі яе калгаснікам.

Памятаеце ідэю Аляксея Максімавіча Горкага аб стварэнні гісторыі фабрык і заводаў? Мы маем магчымасць даць ілюстрацыйны матэрыял для такіх гісторый усіх буйных прадпрыемстваў Беларусі. Але, не чакаючы, пакуль такія гісторыі будуць напісаны, мы самі пачалі ствараць экспазіцыі, прысвечаныя мінуламу і сённяшняму нашых заводаў і фабрык.

Фотападборкі ўжо адпраўлены «Гомсельмашу», фабрыцы «КІМ», Мінскаму трактарнаму заводу. Працягваем збор матэрыялаў для іншых прадпрыемстваў.

— Людміла Мікалаеўна, — пытаемся мы ў заключэнне, — якія выданні, акрамя тых, што ўжо ўпаміналіся, рыхтуюцца да выпуску ў свет па вашых матэрыялах?

— У Беларускім дзяржаўным выдавецтве запланаван альбом аб піянерскай арганізацыі імя Ул. І. Леніна. Па матэрыялах гэтага альбома мы зрабілі 10 перасоўных выставак.

Запланаван таксама буклет гістарычных помнікаў на тэрыторыі Беларусі. Мы аказваем дапамогу ў падборы сюжэтаў мастацкіх паштовак, канвертаў, марак. Архіў падбіраў ілюстрацыі да навуковых прац, папулярных брашур. Яны ўбачаць свет у 1963 годзе. Адкрыем выстаўку выданняў, у якіх апублікаваны нашы матэрыялы.

### ЗАКАЗ ЗАВОДА

Далей мы гутарылі з Галінай Файбышаўнай Ходас — старшым навуковым супрацоўнікам, які адказвае за захаванне кінадакументаў.

— Самай цікавай нашай работай з'яўляецца дакументальны фільм, які выпушчан па заказу Мінскага трактарнага завода.

Архіў, зразумела, не абавязан выпускаць кінафільмы, у нас няма нават адпаведнага абсталявання. Але на просьбу трактаразаводцаў мы не маглі адмовіць. Трактаразаводцы прыйшлі да нас цэлай дэлегацыяй.

З часу закладкі завода прайшло 15 год. За гэты час у калектыве змянілася многа людзей, адбыліся важныя падзеі. Як расказаць аб іх новаму пакаленню рабочых, гасцям, якія часта наведваюць завод?

Выканаць заказ трактаразаводцаў маглі толькі мы. У нас жа назапасіліся вялікія матэрыялы, якія адлюстроўваюць розныя этапы жыцця гэтага вялікага рабочага калектыву. Пачалі праглядаць кінагчасопісы, у якіх былі кадры з МТЗ. Прыйшлося ўважліва вывучыць каля 2.000 метраў плёнкі.

Мы самі напісалі сцэнарый, абмеркавалі яго на трактарным. Але самае цяжкае было ўпераддзе: трэба было манціраваць, друкаваць, агучваць новы фільм. Архіў папрасіў дапамогі ў Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў, у Камітэта па радыёвяшчанню і тэлебачанню...

Нарэшце, надышоў дзень, калі мы запрасілі прадстаўнікоў завода да нас у залу, на прагляд фільма. Адразу ж пасля прагляду работнікі парткома павезлі фільм для паказу дэлегатам партыйнай канферэнцыі Заводскага раёна. Фільм атрымаў высокую ацэнку дэлегатаў.

Цяпер фільм часта дэманструецца на трактарным, ён перадаваўся па тэлебачанню.

Услед за фільмам аб Мінскім трактарным заводзе быў створаны тэлевізійны фільм пра «Гомсельмаш», а да 9 мая мы падрыхтавалі тэлеперадачу «Сцяг перамогі».

У нас ёсць кадры кінахронікі аб старым Палессі. А што, калі супаставіць іх з кадрамі, знятымі на Палессі за апошнія гады? Так нарадзілася задума тэлеперадачы «Старое і новае Палессе». Сцэнарый фільма ўжо напісан. У канцы месяца яго ўбачаць тэлегледачы. Рыхтуем мы таксама перадачу, прысвечаную ўз'яднанню беларускага народа ў адзінай Савецкай дзяржаве.

Нядаўна мы атрымалі з Цэнтральнага архіва кіна-фота-фонадакументаў СССР багацейшыя матэрыялы па гісторыі рэспублікі ў перадваенныя гады.

### «УЗЯТА З АРХІВАЎ»

Напаследак адбылася гутарка з начальнікам АКФФД Іванам Сяргеевічам Лукельевым.

— У рабоце архіўных устаноў, — сказаў ён, — адбываюцца важныя перамены. Мінуў той час, калі «здаць у архіў» азначала «забыць». Цяпер мы ўсё часцей чуем: «узята з архіваў». Архівы шырока расчынілі дзверы, зрабілі даступнымі свае фонды. Усё мацнейшымі становяцца нашы сувязі з жыццём. Вельмі важным бокам дзейнасці архіўных устаноў стала публікацыя, абнародаванне найбольш цікавых матэрыялаў, удзел у прапагандысцкай рабоце, у распаўсюджванні палітычных і навуковых ведаў. Цяпер цяжка нават поўнасцю ацаніць усё значэнне перабудовы, якая адбываецца. Ужо зараз выразна выступаюць такія профілі ў нашай рабоце, як архіў—музей, архіў—установа культуры. З кожным годам будзе расці колькасць наведвальнікаў, якія знаёмяцца з нашымі фондамі. Але мы самі павінны ісці насустрач людзям, знаёміць іх з важнейшымі матэрыяламі за сценамі архіўных залаў. Наш вопыт, у прыватнасці, паказвае, што без вялікіх асігнаванняў, толькі пры ўмове некаторага расшырэння вытворчай базы, архівы могуць рыхтаваць масавыя фотавыстаўкі, падборкі, экспазіцыі. Важныя матэрыялы ёсць у нас для кінастудый, тэлевізійных цэнтраў. Заслугоўвае, у прыватнасці, увагі вопыт удзелу архіўных работнікаў у стварэнні спецыяльных кінафільмаў і тэлевізійных перадач.

— Якія цяжкасці прыходзіцца пераадольваць архіву ў сувязі з новымі напрамкамі ў рабоце? — запыталіся мы.

— Цяжкасці гэтыя, у асноўным, звязаны з існаваннем міжведамасных бар'ераў. Прывяду адзін прыклад. Фотавыстаўку па гісторыі беларускай савецкай культуры, цалкам гатовую, мы прапанавалі Міністэрству вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР для экспанавання ў адным з інстытутаў. Таварышы з міністэрства адказалі, што гэта не па іх ведамству. Тую ж выстаўку мы прапанавалі Палацу культуры прафсаюзаў. Дырэктар палаца спаслаўся на тое, што матэрыялы ён атрымлівае праз Міністэрства культуры, і таксама адхіліў нашу прапанову. Добра, што выстаўку згадзіліся «прытуліць» у сябе нашы калегі з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР. Так і вісіць яна там у калідоры. А выстаўка гэтая з вялікай карысцю магла б экспанавацца ва ўсіх культурна-асветных установах рэспублікі. Прыкладна тое ж самае адбылося з фільмам па гісторыі Мінскага трактарнага завода. Фільм атрымаў высокую ацэнку, але пры ўсім жаданні мы не можам прасунуць яго ў пракатную сетку.

— Цяжкасці, аднак, нас не палохаюць, — заканчвае Іван Сяргеевіч. — Яны немінучыя пры ўзнікненні новага і, безумоўна, пераадольныя. Што датычыць мяне, то я люблю заглядваць наперад. Мне бачыцца вялікая зала для прагляду пры кожным архіве, бачыцца моладзь, што спяшаецца ў архіў, як цяпер на сеансы кінахронікі, на выстаўку, у музей...

**М. МАРЦІНКОЎСКІ.**

## У ПЕРАДАВЫХ КІНАФІКАТАРАЎ

У сельгасарцелі імя Леніна Акцябрскага раёна ўсе ведаюць механіка і матарыста сельскай кінаўстаноўкі, ударнікаў камуністычнай працы братоў Фёдара і Уладзіміра Станілевічаў. Яны з месяца ў месяц перавыконваюць устаноўлены ім план. У гэтым жа раёне добра адзываюцца сельскія кінагледачы і пра механіка, ударніка камуністычнай працы А. Жынка.

За выдатнае кінаабслугоўванне насельніцтва званне ўдарнікаў камуністычнай працы прысвоена работнікам сельскіх кінаўстановак І. Сакоўскаму і В. Кудзіну з Нараўлянскага раёна, А. Карніенку з Чачэрскага раёна і многім іншым. Гэтае ганаровае званне носяць ужо 75 кінафікатараў і іншых работнікаў культуры. Гэтыя людзі з'яўляюцца пачынальнікамі многіх добрых спраў. Па іх ініцыятыве паявіліся клубы аматараў кіно, дзіцячыя пакоі пры кінатэатрах, дзіцячыя кінатэатры на грамадскіх асновах, арганізавана дэманстрацыя фільмаў для састарэлых. Работнікі кінафікацыі Гомельскага раёна першымі стварылі ва ўсіх калгасах і саўгасах кіналекторыі на прапагандзе сельскагаспадарчых ведаў. Шырокае пашырэнне атрымаў у вобласці вопыт работы кармянскіх кінамеханікаў. Яны першымі ўкаранілі брыгадны метад работы сельскіх кінаўстановак. Лепшы з іх узначальвае брыгаду, у якую ўваходзяць 4—5 кінаўстановак. Ён сочыць за іх работай, своечасовым паказам фільмаў у аддаленых брыгадах і населеных пунктах. На такі метад кінаабслугоўвання перайшлі ўжо работнікі сельскіх кінаўстановак Ельскага і Калінкавіцкага раёнаў.

Кінафікатары Гомельшчыны ў другім квартале заваявалі першае месца ў рэспубліцы. За дасягнутыя поспехі ім уручан пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства культуры БССР і БРК прафсаюза работнікаў культуры.

(БЕЛТА).

# РЭДКІЯ КНІГІ

Пра мужнасць і вялікую любоў да сваёй Айчыны рускіх салдат і іх военачальнікаў расказваюць гэтыя кнігі. На адной з іх «Ваеннае жыццё генерал-лейтэнанта Дорахава» стаіць дата 5 кастрычніка 1850 года. Гэта — рукапісны фаліянт у скураной вокладцы. Напісаў кнігу сын генерала Дорахава Руфім Дорахаў.

Каштоўнасць рукапісу ў тым, што ён паказвае гераізм народа ў барацьбе з ворагамі зямлі рускай у 1812 годзе. У кнізе змешчана многа данясенняў і рапартаў Дорахава галоўнакамандуючаму рускіх войск Кутузаву, перапіска з Баграціёнам, Барклаем дэ Толі.

Значнае месца ў кнізе Руфім Дорахаў аддае апісанню падзей 1812 г. Напалеона называў ён «самонадеянным завоевателем, победами своими ставшим в ряду первых полководцев мира». Далей аўтар кнігі піша, што «Наполеон уверен был, что он разгромит Россию и в которой-либо из двух ее столиц предпишет ей условия мира, как предписал их в Берлине и Вене. Но он не помыслил о том, что Отечество наше... принесет все жертвы для своего избавления, что народ русский, проникнутый... святою любовью к родному краю, железною стеною станет... в минуты бедствия и скорее ляжет костями, чем подвергнется унижению. Он не вспомнил об этом,— и гордые его замыслы разбились о непоколебимость духа русского».

Сам Іван Сямёнавіч Дорахаў актыўны ўдзельнік Барадзінскай бітвы. У гэтай бітве атрад Дорахава разам з Сумскім, Марыупальскім гусарскімі, Арэнбургскім і Курляндскім драгунскімі палкамі, пасланы на дапамогу Баграціёну, у бітве пад сялом Сямёнаўскае «неоднократно повергал французов в бегство». За ўдзел у гэтай бітве Дорахаву было прысвоена званне генерал-лейтэнанта.

Другая кніга выйшла ў свет у 1833 годзе ў Санкт-Пецярбургу ў друкарні Н. Грэча, называецца яна «Падарунак таварышам або перапіска рускіх салдат у 1812 г., выдадзеная рускім інвалідам Іванам Скобелевым». У кнізе змешчана 30 пісем, з іх 16 належаць салдату Рудзькіну і 14 — салдату Крамнёву і бязногаму інваліду Фёдару Лазараву Ранцаву.

Цікавая гісторыя гэтай кнігі. З салдатам Крамнёвым Скобелеў сустрэўся ў 1812 годзе ў час «усеагульнага еўрапейскага свята — падзення Напалеона». Тады і былі атрыманы пісьмы рускіх салдат, якія Скобелеў апублікаваў у гэтай кнізе.

Вось як характарызуе аўтар кнігі салдата Крамнёва: «Ён уяўляў сабою рэдкі прыклад сыноўняй любві да Айчыны». У кнізе мы даведваемся, што салдат Крамнёў атрымаў шэсць цяжкіх ран за час сваёй 25-гадовай службы ў арміі. У адным з пісем Крамнёў піша: «Сувораў, ён быў светлая салдацкая зорка! Усю зямлю з'еў бы, якая пакрывае Суворава, толькі б ажыў і ўзляцеў арол наш паднябесны».

У пісьме Рудзькіна да салдата Крамнёва апісваецца Барадзінская бітва, раскрываецца сакрэт перамогі рускіх над французамі.

«З раніцы да глыбокай ночы працавалі мы без адпачынку і не ступілі назад ні кроку. Надышоў, браце, час, што і князі, і графы, і вялікія генералы, і простыя салдаты адну думку думаюць і за адну справу паміраюць».

Аб якой вялікай сіле патрыятызму сведчаць гэтыя словы простага рускага салдата. У кнізе 205 старонак і кожная з іх захапляе чытача сваёй чалавечнасцю, глыбокім разуменнем падзей, што адбываліся ў той час.

Дзве гэтыя кнігі пра доблесць рускага народа ў 1812 годзе захоўваюцца ў Гомельскай абласной бібліятэцы імя Леніна.

**Я. УМЕЦКАЯ.**

# МАСТАК-БАЕЦ

*Да 50-годдзя з дня нараджэння Х. Бідструпа*

Споўнілася пяцьдзесят год з дня нараджэння выдатнага дацкага мастака-карыкатурыста Херлуфа Бідструпа. Імя Бідструпа, яго малюнкі добра вядомы савецкім людзям. Таленавіты датчанін здолеў сваім майстэрствам, выдумкай, а галоўнае—глыбокай палітычнай мэтанакіраванасцю ўзняць майстэрства карыкатуры да такога ўзроўню, калі яно становіцца вострай баявой зброяй у барацьбе за лепшыя ідэалы чалавецтва.

У сваіх успамінах мастак піша, што маляваць пачаў з таго часу, калі памятае сябе. Спачатку гэта былі дзіцячыя малюнкі, аднак ужо тады Херлуф заўважыў, што людзі, гледзячы на іх, пачынаюць смяяцца. Гэта на першым часе крыўдзіла хлопчыка, ён думаў, што дарослыя смяюцца, бачачы яго прафесіянальную бездапаможнасць. Аднак, дзякуючы спрыяльнай абстаноўцы, якая склалася вакол Херлуфа ў яго сям'і, дзе ўсяляк садзейнічалі развіццю мастацкага таленту сына (бацька яго быў спачатку падручным маляра, а потым сам стаў мастакам-дэкаратарам), Бідструп вельмі хутка зразумеў, што яго малюнкам уласціва здольнасць гумарыстычнага ўздзеяння на людзей. І ён пачынае развіваць у сабе гэтую якасць, стараецца шукаць навокал сябе смешнае і ўвасабляць у малюнках.

Займаючыся ў агульна-адукацыйнай школе, Бідструп адначасова хадзіў у мастацкую школу. Ужо ў той час ён прымае самы гарачы ўдзел у выпуску розных школьных гумарыстычных часопісаў.

У 1931 годзе Бідструп паступае ў Каралеўскую акадэмію выяўленчага мастацтва ў Капенгагене. Малады мастак ужо тады імкнуўся быць зразумелым самым шырокім народным масам. У акадэміі ж культываваліся норавы «чыстага мастацтва», далёкага ад грамадскага жыцця.

Перыяд знаходжання Бідструпа ў акадэміі супаў з палітычнымі падзеямі, якія не маглі не хваляваць кожнага сумленнага чалавека. На паўднёвых граніцах яго радзімы — у Германіі ўзняў галаву фашызм. Пажар рэйхстага, гераічная барацьба Георгія Дзімітрава на Лейпцыгскім працэсе з фашысцкімі катамі — усё гэта не магло не адбіцца на светапоглядзе юнака. Менавіта тады з'яўляюцца першыя малюнкі Бідструпа — карыкатуры на ашалелага фюрэра ў часопісе «Культуркампэн» — органе народнага фронту Даніі.

У 1935 годзе Бідструп скончыў акадэмію і, паводле яго слоў, «апынуўся на вуліцы ў сумным становішчы жывапісца з акадэмічнай адукацыяй». Справа ў тым, што ва ўмовах буржуазнай Даніі не было дзе прыкласці рукі пачынаючаму мастаку. Калі карціны і купляюць, — а гэта робяць спекулянты, уладальнікі веласіпедных ці піваварных фірм, — то ў вядомых модных мастакоў.

Першыя выступленні Бідструпа ў друку звярнулі на сябе ўвагу ўладальнікаў раду буйных буржуазных газет. Бідструп атрымлівае запрашэнне супрацоўнічаць у дацкай буржуазнай газеце «Берлінгске цідэндэ».

Аднак праца ў гэтай газеце не задавальняла Бідструпа, і ён пачынае супрацоўнічаць у газеце «Сацыял-дэмакрашэн», якая ў той час займала антыфашысцкую пазіцыю. Тут, нягледзячы на цэнзуру, Бідструпу ўдаецца друкаваць палітычныя карыкатуры, накіраваныя супраць фашызму. Патрэбна адзначыць, што ў той час у Даніі з'яўляецца «цікавасць» да карыкатуры. Амаль усе газеты змяшчаюць на сваіх старонках карыкатуры, у большасці сваёй паверхоўныя аднадзёнкі, пазбаўленыя палітычнай вастрыні. Бідструп не хацеў ісці па гэтым шляху, ён разумеў, што ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы, ва ўмовах, калі фашызм робіць свае чорныя справы, — мастак, калі ў ім не згас агонь грамадзянскага сумлення, не можа заставацца старонні назіральнікам.

У 1940 годзе фашысты акупіравалі Данію. Буржуазны дацкі друк становіцца памагатым акупантаў. Бідструп бачыць, што толькі камуністы застаюцца самымі мужнымі і паслядоўнымі барацьбітамі супраць фашызму, за свабоду сваёй радзімы. І ён звязвае свой лёс з лёсам Камуністычнай партыі Даніі.

У час акупацыі Бідструп супрацоўнічае ў падпольным камуністычным друку, выпускае лістоўкі, плакаты, стварае серыю паштовак з карыкатурамі на здраднікаў, якія прыслужнічалі гітлераўцам.

Пасля сканчэння вайны малюнак Бідструпа быў змешчан у першым легальным нумары камуністычнай газеты «Ланг ог фольк». З таго часу амаль у кожным нумары гэтай газеты на другой паласе ў ніжнім правым куткy чытач знаходзіць палітычную карыкатуру Херлуфа Бідструпа. Гэтыя карыкатуры, паводле выказвання вядомага дацкага пісьменніка і выдатнага графіка Ханса Шэрфіга, часам замяняюць перадавы артыкул. У нядзельных нумарах «Ланг ог фольк» Бідструп змяшчае свае навелы ў малюнках, якія прынеслі яму славу выдатнага гумарыста.

Агонь сваёй сатыры мастак накіроўвае супраць падпальшчыкаў новай вайны. Бідструп кляйміць агрэсіўны саюз НАТО, амерыканскіх ваяк. У яго малюнках раскрываецца сутнасць рэваншысцкай дзяржавы, створанай у Заходняй Германіі, якая з'яўляецца прамым наследнікам гітлераўскага рэйха. Бідструп выступае супраць рэакцыйных кіраўнікоў сваёй краіны, якія праводзяць антынародную палітыку і ўцягнулі Данію ў НАТО. Акрамя карыкатур, Бідструп зрабіў шмат плакатаў, прысвечаных барацьбе за мір.

Тэхніка Бідструпа на першы погляд надзвычай простая. Ён, як правіла, працуе пяром, часам робіць заліўкі тушшу. Аднак той, хто бачыў арыгіналы яго работ, можа ацаніць тую велізарную працу, якую ўкладвае мастак у свае работы. За ўяўнай лёгкасцю малюнка — штодзённая ўпартая праца па ўдасканаленню графічнай мовы.

Бідструп шмат падарожнічае. Не раз бываў Херлуф Бідструп і ў СССР. Адусюль мастак прывозіць велізарную колькасць малюнкаў і накідаў. Проста здзіўляе тая працаздольнасць, якою валодае гэты прызнаны майстар.

Адзін рэдактар дацкай газеты сказаў, што «цяпер два датчаніны вядомы ўсяму свету. Гэта фізік Нільс Бор і мастак Херлуф Бідструп». І гэта сапраўды так. Імя Бідструпа зараз шырока вядома за межамі яго радзімы Даніі.

**А. ЧУРКІН,** мастак.

Х. Бідструп. Знаўцы мастацтва.

# «БАЛГАРСКІЯ ПАКУТНІЦЫ»

Скарбы мастацтва

Каля гэтай карціны, якая вісіць у адной з залаў Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, заўсёды шмат наведвальнікаў. Яны глядзяць, адыходзяць і вяртаюцца зноў. Карціна сапраўды ўражвае.

...Бедная вясковая царква. Усюды сляды бясчынстваў і разгрому. Падае запаленая свечка, і быццам чуваць гук падсвечніка, які толькі што ўпаў. На падлозе — зганьбаваная забітая жанчына ў лужыне крыві, а на грудзі ёй кінута разарваная біблія. Воддаль стаіць забойца — турэцкі башыбузук, на яго страшным твары — злараднасць. Два турэцкія каты крыху далей вяжуць другую жанчыну, вырываючы ў яе з рук дзіця. Жанчына змагалася: валасы яе ўскудлачаны, адзенне парвана. З адчаем і страхам глядзіць яна на забітую. А каты смакуюць другую расправу...

І хоць падзеі, якія ляглі ў аснову гэтай карціны, даўно ўжо сталі гісторыяй, а рэпрадукцыі з яе мы не раз бачылі ў падручніках і ў выданнях работ рускіх мастакоў-перасоўнікаў. Гэта карціна К. Макоўскага «Балгарскія пакутніцы». У гэтыя дні яна асабліва прыцягвае да сябе ўвагу. 9-га верасня балгарскі народ адзначыў сваё нацыянальнае свята — Дзень вызвалення ад фашысцкай дыктатуры ў краіне.

Карціна «Балгарскія пакутніцы», напісаная ў 1877 годзе, уваскрашае падзеі 85-гадовай даўнасці, калі рускія войскі выгналі з Балгарыі турэцкіх захопнікаў. Яна з'явілася адлюстраваннем настрояў передавой рускай інтэлігенцыі, якая са спачуваннем сачыла за барацьбой славянскіх народаў супраць турэцкага ўладарніцтва.

Неўзабаве пасля напісання карціна «Балгарскія пакутніцы» экспанавалася на выстаўцы акадэмічнага сходу ў Пецярбургу. Уражанне ад яе было вельмі вялікае.

У тым жа 1877 годзе пачалася руска-турэцкая вайна. Царскі ўрад праследаваў у ёй свае карыслівыя мэты—захоп праліваў, узмацненне ўплыву на Балканах і г. д., але аб'ектыўна, незалежна ад мэт царызму, вынікі вайны мелі і прагрэсіўны характар, таму што прывялі да вызвалення братніх славянскіх народаў Балкан ад ненавіснага турэцкага прыгнёту. Са слязамі радасці сустракалі дарагіх братоў — рускіх воінаў-вызваліцеляў— балгары, побач змагаліся рускія салдаты і балгарскія апалчэнцы.

Карціна К. Макоўскага «Балгарскія пакутніцы» з пачатку вайны экспанавалася на выстаўцы ў карысць Чырвонага Крыжа. Доступ да карціны стаў больш шырокі, папулярнасць яе незвычайна ўзрасла. Сучаснікі расказваюць, што многія, паглядзеўшы карціну «Балгарскія пакутніцы», патрабавалі неадкладнай адпраўкі іх добраахвотнікамі на руска-турэцкі фронт.

Які ж далейшы лёс славутай карціны і як яна трапіла ў беларускі музей?

Яна была набыта неўзабаве пасля Вялікай Айчыннай вайны ў маскоўскага артыста і мастака Р. Афоніна. Сам жа Р. Афонін набыў карціну ў гады рэвалюцыі.

З першых дзён адкрыцця Мастацкага музея БССР карціна экспануецца ў яго залах, паранейшаму, як і 85 гадоў назад, хвалюючы шматлікіх гледачоў, выклікаючы ў іх гнеўны пратэст супраць глумлення над чалавекам, супраць гвалту і рабства. У кнізе водгукаў ганаровых гасцей — наведвальнікаў музея ёсць і такі запіс: «Асабліва многа хваляванняў даставіла нам карціна Макоўскага, якая адлюстравала пакуты нашага народа ў часы турэцкага рабства. Члены дэлегацыі агульнанароднага Камітэта балгара-савецкай дружбы».

**Б. РАМАНАЎ.**

К. Макоўскі. Балгарскія пакутніцы.

# НАВІНЫ КІНО ЗА РУБЯЖОМ

### РУМЫНІЯ

Рэжысёр Алімп Вэрэштану, які паспяхова працуе ў галіне мультыплікацыі, закончыў дасціпны памфлет «Зроблена ў Афрыцы». Зместам сваім памфлет накіраваны супраць каланіялізму.

### ГДР

Кінапубліцысты Анелі і Андрэ Тарндайк, аўтары фільма «Аперацыя «Тэўтонскі меч», заканчваюць работу над двухсерыйнай лентай «Рускі цуд», якая расказвае пра гераічны шлях нашай краіны ад першых год Савецкай улады да нашых дзён. Першая серыя кінаэпапеі ахоплівае перыяд 1917—1930 гадоў, другая — ад 1930 года да нашых дзён.

### КІТАЙ

На экранах Кітайскай Народнай Рэспублікі дэманструецца фільм «У тайзе і снежным стэпе», пастаўлены рэжысёрам Лю Шыжан па раману маладога пісьменніка Цюі Бо. Гэта хвалюючая кінаэпапея аб барацьбе кітайскай Народна-рэвалюцыйнай арміі з гаміндані̆аўцамі ў 1946 годзе. У фільме заняты папулярныя акцёры Чжан Лян, Чжан Оншоў, Лю Сю-хон.

### ІТАЛІЯ

Нядаўна па рымскаму тэлебачанню рэжысёр Карла Лідзані сказаў, што яго вельмі зацікавіў раман Альберта Бевілаква «Горад у каханні». У рамане расказваецца аб апошніх пяцідзесяці гадах гісторыі Італіі. Лідзані збіраецца перанесці гэтую гісторыю на экран.

Італьянскі кінарэжысёр Лукіна Вісконці, знаёмы нашаму гледачу па фільмах «Самая прыгожая» і «Рока і яго браты», распачаў здымкі фільма «Леапард», па вядомаму раману Тамаза дзі Лампедуза. У галоўных ролях — амерыканскі акцёр Берт Ланкастэр, італьянка Клаудзіа Кардынале і француз Ален Дэлон (выканаўца ролі Рока ў фільме «Рока і яго браты»).

Шырокаэкранны гістарычны фільм «Жыццё Цэзара» здымае ў Югаславіі адна з італьянскіх кінафірмаў. «Сцэнарый гэтага фільма напісаў сам Юлій Цэзар, — заявілі прадзюсеры Роберта Капітані і Луідусі Мандэла. — Гэта славутыя «Запіскі аб гальскай вайне», на аснове якіх зроблен наш фільм». Карціну ставіць малавядомы рэжысёр Амерыга Антон, у ролі Цэзара—амерыканскі акцёр Камерон Мітчэл.

### МАРОКА

«Палаючая вёска»— так называецца зняты ў Марока фільм аб жыцці алжырскай вёскі ад пачатку ўзброенага паўстання да сённяшніх падзей. Гэта першы фільм сумеснай французска-мараканскай вытворчасці.

### ЗША

Галівудская фірма рашыла экранізаваць раман шведскага пісьменніка Х'ялмара Бергмана «Мадам Інгеборг, дырэктрыса». Для здымак фільма запрошаны вядомы шведскі рэжысёр Інгмар Бергман і амерыканская актрыса Інгрыд Бергман. Сапраўды, Бергман у апрацоўцы і выкананні... Бергманаў.

### ДАНІЯ

Раман Кнута Гамсуна «Пан» пераносіць на экран дацкі рэжысёр Б'ярне Хеніг-Янсен. Сцэнарый напісан сынам пісьменніка Торам Гамсунам.

### ШВЕЦЫЯ

Шырокае прызнанне заваявалі антыфашысцкія фільмы шведскага рэжысёра Эрвіна Лейзера «Майн кампф» і «Адольф Эйхман». Цяпер Лейзер распачаў работу над фільмам аб атамнай бомбе. Гэта будзе антымілітарысцкі, у асноўным дакументальны фільм.

### ПОЛЬШЧА

Рэжысёр Анджэй Вайда вядзе перагаворы аб пастаноўцы фільма аб сумеснай барацьбе польскіх і савецкіх партызан у гады другой сусветнай вайны. Сцэнарый «польскай» часткі фільма пішуць Анджэй Вайда і Ежы Пжэждзецкі, «савецкай» часткі — аўтары «Балады аб салдаце» Рыгор Чухрай і Валянцін Яжоў.

Галоўны рэдактар Н. Е. ПАШКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. І. БУТАКОЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, В. Ул. ІВАШЫН, А. Н. МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Р. К. САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), М. Г. ТКАЧОЎ, І. З. ШАРАХОЎСКІ, І. Б. ШАЦІЛА, Р. Р. ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-22-04, аддзела мастацтва — 3-24-62, аддзела культуры—3-22-04, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03
«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу
АТ 01288